Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

**Выходзіць тры разы ў тыдзень.**

№. 6. Вільня, Субота, 5-га сьнежня 1925 г. Год I.

## Двацацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады.

### Пад сьцягам сацыялізму.

Да цэлага раду сёлетніх юбілеяў, сьвяткаваных беларускім грамадзянствам, на самым канцы году далучаецца яшчэ адзін. Гэта — двацатыя ўгодкі закладзінаў *першае беларускае сацыялістычнае арганізацыі*.

Можна сьмела сказаць, што ўвесь адраджэнскі рух у нас расцьвіў пад чырвоным сьцягам сацыялізму. І ня дзіва: бо-ж у той мамэнт, як нясьмелыя лятуценьні нашых рамантыкаў аб нацыянальным адраджэньні народу пачалі рэалізавацца прабудзіўшайся беларускай масай, — у гэты мамэнт аб нацыянальнай волі не магло быць гутаркі без вызваленьня палітычнага і сацыяльнага ўсіх працуючых у межах вялізарнае і многаплеменнае імпэрыі расейскіх цароў самадзержцаў.

Але было йшчэ і нешта другое, што вяло сярмяжную Беларусь на шлях сацыялізму: гэта — тое, што толькі на гэтым шляху магло адбыцца *аб'яднаньне працоўных вёскі з іх братамі-работнікамі*, выэміграваўшымі дзеля хлеба ў месты і ўвайшоўшымі тамака ў склад рэвалюцыйнага авангарду — мястовага пралетарыяту.

Такое аб'яднаньне і адбылося на нашых вачох. А вынік яго — тая вялізарнай творчая праца, якую вядуць беларускія масы.

Сацыялізм — тая залатая ніць, што зьвязала працоўную вёску з працоўным местам і павяла іх адным беларускім шляхам. Сацыялізм вывеў гэты шлях на шырокую дарогу змаганьня ўсіх народаў сьвету — ўсіх прыгнечаных і паняволеных — за іх вызваленьне. І затым-то той кліч, які напісалі першыя беларускія сацыялісты на сваім сьцягу: „Працоўная бедната ўсіх краёў, злучайся!“ — ня гледзячы на зьмену партыяў і іхніх праграмаў — захаваўся ў беларусаў па сягоньняшні дзень і ня страціць свайго значэньня ніколі.

## 3 гісторыі БСГ.

(*Жменя ўспамінаў*).

### Нарадзіны партыі.

Гэта было якраз дваццаць гадоў назад.

Расейская Рэвалюцыя 1905 году йшчэ йшла поўным ходам, хаця і рэакцыя ўжо пачала ачухівацца і падыймаць галаву. Вера ў перамогу Рэвалюцыі — нават пасьля няўдачнай другой агульнай забастоўкі (як тады казалі, справацыраванай урадам), — усё яшчэ была крэпкая. І вось перад рэвалюцыйнымі партыямі паўставала зусім рэальнае пытаньне: калі заўтра ўлада пяройдзе ў нашыя рукі, дык як мы будзем правадзіць у жыцьцё нашыя лёзунгі?

Асабліва востра стаяла справа зямлі. Сялянства ждала зямлі. Сялянства хацела ведаць, як і калі будуць дзяліць зямлю. А тымчасам сярод расейскіх партыяў ня было зусім згоды ў гэтай справе: як раз у той час тэорэтычныя спрэчкі між прадстаўнікамі эсдэкаўскае і эсэраўскае ідэалёгіі ўзгарэліся нязвычайна горача імення адносна да вырашэньня зямельнага пытаньня.

Ясная рэч, што і сярод беларускіх рэвалюцыянэраў пытаньне гэтае займала пачэснае, калі ня першае мейсца. Сярод сяброў Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады йшла барацьба паміж уплывамі эсэраўшчыны і эсдэкаўскае ідэалёгіі, і ў сувязі з гэтым дзяліліся і пагляды на вырашэньне аграрнае проблемы. Датаго ж наагул ідэалёгія БРГ была даволі няясная, нявырабленая. Было шуканьне дарогі ня толькі ў адносінах да зямельнага пытаньня, але і ў адносінах да агульнага кірунку рэвалюцыйнае працы ў Беларусі.

Вось, пэрспэктыва перамогі Рэвалюцыі і магчымасьці рэалізацыі ў хуткім часе партыйных лёзунгаў, — з аднаго боку, ды разрастаньне партыі ўшыркі і ўглыб — з другога прымусіла Цэнтральны Камітэт БРГ склікаць адумысны партыйны зьезд, які цьвёрда ўстанавіў-бы праграму і тактыку партыі.

Зьезд, папярэджаны напружанай падгатаваўчай працай цэнтру, адбыўся ў Менску — ў канцы лістапада ці пачатку сьнежня (ст. ст.) 1905 году.

Ведама, патрэбна было захаваньне поўнае канспірацыі, бо ўжо галоўныя дзеячы БРГ ў той час былі скампрамітаваны перад уладай і жылі, і працавалі пераважна на поўлегальным, а то і зусім нелегальным палажэньні. Асабліва скампрамітавала іх супрацоўніцтва з баявой арганізацыяй эсэраў пры арганізацыі няўдаўшагася бомбавага замаху на менскага губэрнатара Курлова, даўшага загад расстрэлу многатысячнага мітынгу 17 кастр. (ст. ст.) на вагзале, калі было забіта і цяжка ранена кала 200 душ.

Зьезд адбыўся на канцы места — у доме аднаго з актыўных сяброў арганізацыі, Віктара Зелезея — ля дарогі ў Кальварыю. У марозны зімовы дзень на самай раніцы сабраліся дэлегаты, парыяжджаўшыя з галоўных арганізацыйных цэнтраў: Вільні, Пецярбурга, ды ад вясковых камітэтаў. Нарады трывалі з малымі перадышкамі ажно да раніцы другога дня, пры чым ніхто — дзеля канспірацыі — ня выходзіў з гасьціннае хаты тав. Зелезея.

Трудна цяпер успомніць усіх, хто прымаў учасьце ў гэным гістарычным — як далей убачым — зьезьдзе: усе пісаныя і друкаваныя матэрыялы, якія захаваліся і былі здадзены на схоўку аднаму з беларускіх дзеячоў, прапалі ў яго, ці мо' аказаліся прысвоенымі ім з амбітнай мэтай мець у сваіх руках адзіную крыніцу да гісторыі паўстаньня беларускага сацыялістычнага руху.... З туманнай далі паўстаюць у памяці браты Луцкевічы, Казімір Кастравіцкі („Карусь Каганец“ — з Меншчыны). Аляксандар Уласаў (з Вялейшчыны), Алёізія Пашкевічанка („Цётка“) і Фэлікс Стэцкевіч (з Лідчыны), Вацлаў Іваноўскі (Пецярбург), Аляксандар Бурбіс (з Вільні), Яўген Хлебцэвіч (гадунец Віленскае Духоўнае Сэмінарыі, з Бельшчыны), Віктар Зелезей (Менск), рад сялян-дэлегатаў — пераважна з Меншчыны, сярод якіх вызяляўся тав. Мікалай (прозьвішча ня помню!) з Ігуменскага павету — і інш.*). Паміж іншым, прымаў учасьце ў зьезьдзе і госьць з партыі ППС, інжэнер Станіслаў Высоцкі, які ў той час прыпадкова жыў у Менску і працаваў з беларусамі, як госьпітант. Усяго было каля 20 дэлегатаў з правам рашаючага голасу.

На гэтым зьезьдзе перад усім вырашалася пытаньне аб партыйнай ідэалёгіі. І тут **бліскучая перамога дасталася марксаўскай ідэалёгіі.** Арганізацыю з „Рэвалюцыйнай“ пастаноўлена было аднагалосна перайменаваць у „Беларускую Сацыялістычную Грамаду“. І тая-ж марксаўская ідэалёгія паўторна перамагла слабыя сярод дэлегатаў водгукі эсэраўшчыны, калі справа дайшла да зямельнае праграмы: у аснову праграмы была пакладзена маслаўская ідэя муніцыпалізацыі ўсіх зямельных прастораў, якія павінны перайсьці ў рукі валасных сялянскіх радаў, аб'яднаных у радах павятовых, панад якімі мусіць стаяць аўтаномная агульна-краёвая рада Беларусі. — Гэтак у сувязі з разьвязкай зямельнага пытаньня на Беларусі аказалася і справа адносінаў Беларусі да Расейскае дзяржавы: апошнюю зьезд прадстаўляў сабе ў пастаці фэдэрацыйнага саюзу самастойных (аўтаномных) вольных народаў.

Было йшчэ адно пытаньне, якое ў той час захоплівала рэвалюцыйныя партыі і зьяўлялася прадметам спрэчак паміж эсэрамі і эсдэкамі. Гэта пытаньне аб тэроры. Сярод „грамадзян“ было вельмі многа прыхільнікаў гэтага способу барацьбы — прыхільнікаў больш па настрою, чым па ідэалёгіі. І гэтае пытаньне было пастаўлена на адно з першых мейсц парадку дня. Вырашана-ж яно было ў такім духу, што тэрор, як способ рэвалюцыйнага наступу, быў адкінуты, а дапушчаны партыяй толькі, як способ абароны.

Урэшце зьезд распрацаваў і прыняў стройную схэму арганізацыі, а такжа інструкцыю для Цэнтральнага органу партыі.

Вось галоўныя мамэнты з гэтага гістарычнага зьезду, якія захаваліся ў памяці. Да гэтага трэба дадаць выбары Цэнтральнага Камітэту БСГ., у склад якога ўвайшлі (як сябры і кандыдаты — не памятую, хто чым быў): Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Іваноўскі, Аляксандар Бурбіс і Аляксандар Уласаў.

Калі — пасьля 24-гадзіннае працы бяз сна — сябры зьезду марозьлівай раніцай украдкам уцякалі з хаты тав. Зелезея, над беларускім вызвольным рухам сьвяціла новая пуцяводная зорка: зорка **сацыялізму**, і гэты іменна кірунак мо' больш, чым што іншае, зьвязаў беларускае нацыянальнае адраджэньне з міжнародавымі ідэаламі працоўных, зьвязаў беларускую справу з справай вызваленьня працы ад усемагутнае ўлады капіталу.....

*) Ці быў на гэтым зьезьдзе цяперашні пэпэасаўскі міністар Браніслаў Земецкі, не памятаю; памятаю толькі, што да арганізацыі ён тады належаў і працаваў вельмі энэргічна.

### 1906 год.

Пасьля зьезду 1905 году і абвяшчэньня вынікаў яго праца БСГ зразу пачала шыбка разьвівацца: да арганізацыі, выявіўшай зусім выразна сваё аблічча, далучаюцца ўсё новыя і новыя працаўнікі, прычым значна расьце лічба „грамадаўцаў“ сярод мястовага пралетарыяту. У пачатку 1906 году ў Менску закладаецца першая нелегальная партыйная друкарня — ў самым цэнтры места (здаецца, пры Нямігскай вуліцы), якую вядзе доўгі час таварыш „Аганёк“ (Фэлікс Стэцкевіч). У канцы студзеня 1906 году паліцыя і жандары робяць налёт на галоўнае гняздо працы — дом Луцкевічаў у Менску, але неасьцярожнасьць агентаў „ахранкі“, лішне адкрыта распачаўшых сачыць за жыхарамі дому, перасьцерагла Луцкевічаў аб пагражаючай бядзе, і яны перабраліся ўпару з Менску ў Вільню, дзе ад лютага таго-ж году працуюць далей пад фальшывымі прозьвішчамі. Аднак, у Менску арганізацыя ўжо настолькі акрэпла, што выезд двух людзей хоць і найбольш актыўных, не адбіваецца на ходзе работы. Калі-ж назамену Луцкевічаў прыяжджае з Вільні Аляксандр Бурбіс, Менск становіцца мо' адным з найбольш руханых беларускіх **работніцкіх цэнтраў** — побач з Пецярбургам, дзе ў той час працуе беларускі работніцкі дзеяч Тубіс (родам з ваколіц Падбродзьдзя). Цэнтральны Камітэт партыі асядае ў Вільні, якая з таго часу наагул становіцца галоўнай кузьняй беларускай рэвалюцыйнай і наагул адраджэнскай ідэалёгіі.

Яшчэ за істнаваньня БРГ — улетку 1905 году — беларускія рэвалюцыянеры распачалі шырокую забастовачную акцыю на вёсцы. Гэтую форму мірнае барацьбы сялянства з абшарнікамі пераняла і БСГ, і ўлетку 1906 году сялянскі забастовачны рух разьліваецца па ўсей Беларусі, захопліваючы вялізарныя прасторы, Край заліваецца сотнямі тысяч праклямацыяў, забастовачных інструкцыяў. Дзеля розных ваколіц друкуюцца спэцыяльныя мяйсцовыя лісткі і дамаганьні забастоўшчыкаў. І пад націскам так нядаўна перажытых страхаў ад заміраючае ўжо ў 1906 годзе Рэвалюцыі двары блізу ўсюды йдуць на ўступкі сялянскім дамаганьням, значна павялічываючы заработную плату — як падзённую, так і гадавую — сталым парабкам. Пад уплывам партыйных работнікаў забастоўкі блізу ўсюды працякаюць зусім спакойна і без ахвяр з боку сялян; выпадкі вызаву войска і аружнай інтэрвэнцыі — даволі рэдкія, і ў Віленшчыне памятна бадай ці не адна-адзіная дзікая расправа над сялянамі, учыненая драгунамі пад кіраўніцтвам абшарніка Валадковіча ў Вялейскім павеце, ў двары Раёўцы.

Забастовачная акцыя з чыста беларускае тэрыторыі зусім натуральна перакінулася і на суседнюю літоўскую, хаця літоўскія арганізацыі не прыдавалі належнае вагі гэтаму способу змаганьня. Дзеля гэтага віленскі Камітэт БСГ, маючы ў сваей арганізацыі даволі многа школьнае моладзі з Літвы (гадунцоў Віленскае Правасл. Духоўнае Сэмінарыі, бацькі якіх — сьвяшчэньнікі — па сваей службе былі прымушаны жыць сярод літоўскага насяленьня), — выдае рад забастовачных лістовак палітоўску, якія і раскідаюцца даволі шырока па літоўскіх вёсках Віленшчыны і Ковеншчыны.

Але 1906 год мае і прыкрыя мамэнты ў жыцьці арганізацыі. Пад той час, як у Вільні праца вядзецца пераважна ў кірунку арганізацыі вёскі і мястовае школьнае моладзі, у Менску, ня гледзячы на ўсё больш і больш узрастаючую рэакцыю, настроі сярод „грамадаўцаў“ яшчэ вельмі гарачыя — бунтарскія, і гэта выяўляецца ў тым, што сярод тамтэйшых працаўнікоў растуць уплывы эсэраўска-тэрорыстычныя. Спробы актыўных выступленьняў, арганізаваныя „грамадаўцамі“ ў Менску, канчаюцца, аднак, няўдачай, і гэта рас-

халаджывае староньнікаў эсэраўскае тактыкі, тым балей, што і віленскі цэнтр выступае проці гэткага расьцярушываньня беларускіх рэвалюцыйных сіл — замест выкарыстаньня іх дзеля работы па арганізацыі сялянскае масы.

Улетку 1906 году ў Вільні адбываецца канфэрэнцыя БСГ, скліканая ЦК партыі. Канфэрэнцыя, апрача цэлага раду тактычных пытаньняў, разглядала паміж іншым і адну справу шырэйшага значэньня: гэта — справа аб'яднаньня паадзінокіх нацыянальных сацыялістычных арганізацыяў у адну агульнакраёвую с.-д. партыю Беларусі і Літвы. Само жыцьцё навяло на гэту думку: гэта — справа забастовачнае акцыі, якая мела-бы шмат вялікшую вагу і сілу, калі-б у ёй прынялі чыннае ўчасьце ўсе працаваўшыя на тэрыторыі Беларусі і Літвы партыі. З другога боку, сярод беларускае і польскае сацыялістычнае інтэлігенцыі крэпка панавала йшчэ ідэя адбудовы супольнае для Беларусі і Літвы дзяржаўнае арганізацыі (ў складзе Усерасейскае Фэдэрацыі, ці зусім незалежнай). I вось спэцыяльная камісія, дэлегаваная канфэрэнцыяй, вядзе перагаворы аб гэтым—з аднаго боку — з Літоўскай Сацыял-Дэмакратычнай Партыяй, з другога—з краёвай арганізацыяй ППС (так званай ППС Б. і Л.), якая пад той час таксама адбывала партыйную канфэрэнцыю. Аднак, перагаворы гэныя разьбіліся дзеля дзьвюх прычын: літвіны выразна заявілі, што яны стаяць на груньце пастановаў так-званага „Вялікага Літоўскага Сойму ў Вільні 1905 году, які пастанавіў, што літоўская дзяржаўная арганізацыя мае складацца з этнаграфічнае Літвы плюс — Віленшчына і Горадзеншчына, бо... далейшае павялічэньне тэрыторыі яе ў кірунку Беларусі можа літвіноў паставіць у палажэньне меншасьці, пад той час, як у межах, вызначаных „Соймам", яны зьяўляюцца пануючай нацыяй... Што-ж датычыць пэпээсаў, дык з імі БСГ не здалела зыйсьціся на груньце зямельнае праграмы: пэпээсы (—мо' з увагі на польскі памешчыцкі „стан посяданя"?) згаджаліся толькі на так званыя, „прырэзкі" малазямельным сялянам, не падыймаючы разьвязаньня зямельнае проблемы ўцэласьці.

Пасьля канфэрэнцыі БСГ пашырае сваю работу ў новым кірунку: арганізацыя, паставіўшы аднэй з сваіх мэтаў барацьбу за беларусізацыю народнае школы ў межах Беларусі, прыступае да гуртаваньня настаўніцтва. У тым-жа 1906 годзе ў Вільні адбываецца склікапы БСГ зьезд беларускіх народных вучыцялёў (з учасьцем Якуба Коласа і інш.), памяшчэньне на які гасьцінна далі літвіны ў салі касьцельнага дому пры сьв. Мікалаю. Аднучасна пад кіраўніцтвам БСГ творыцца арганізацыя вучняў-беларусаў чатырох вучыцельскіх сэмінарыяў: у Маладэчне, Полацку, Сьвіслачы і Панявежы. I гэты саюз вучашчыхся стаўляе сабе мэтай тую-ж барацьбу за родную школу. У тым-жа часе робяцца спробы арганізацыі беларускага жаноцкага руху ў Вільні, і тут энэргічна працуе перад усім „Цётка" (Пашкевічанка).

Але найвыдатнейшым пачынаньнем БСГ у тым часе зьяўляецца выпуск першае беларускае легальнае часопісі — тыднёвіка „Наша Доля" ў Вільні—з ініцыятывы пачынальніка сучаснага адраджэнскага руху Івана Луцкевіча. Праўда, пасьля канфіскацыі пяцёх выпушчаных нумароў з агульнае лічбы шасьцёх — газэта была зачынена. Але яна першая праламала лёд, які раней сковываў беларускае вольнае друкаванае слова, і па сьлядох яе пайшла другая часопісь—„Наша Ніва", пратрываўшая ажно да эвакуацыі расейцамі Вільні ў 1915 годзе.

1906 год — асабліва канец яго — зазначыўся аканчальнай перамогай рэакцыі над Рэвалюцыяй. На гэты год прыпадае і цэлы рад ахвяр, пакладзеных беларусамі ў барацьбе за волю. Хто не перайшоў у „падпольле", як Луцкевічы, або Стэцкевіч, ці ня ўцёк заграніцу, як „Цётка", Сьцяпан Багушэўскі і інш., той павінен быў спадзявацца царскае „расплаты" за сваю працу. I расплата пачалася. Колас і тры яго таварышы па арганізацыі вучыцельскага саюзу (чацьверты ўцёк) былі засуджаны на 3 гады ў вастрог; вучыцель Сучко (з Лідчыны) і Віктар Зелезей (з Менску) сасланы ў Сібір; Казімір Кастравіцкі і Кардэцкі — на тры гады вастрогу і г. д.,—ня лічачы цэлага раду безыменных працаўнікоў, адзін з якіх навет быў павешаны ў Рызе па прыгавору ваенна-палявога суду—пад фальшывым прозьвішчам...

Арганізацыя была ўрадам разгромлена. Але ідэі, якія яна праводзіла, не замерлі,—а фактычныя тварцы яе не апусьцілі рук. Барацьба за вызваленьне беларускага працоўнага народу толькі прыняла другія формы, разьлічаныя не на хуткі выбух Рэвалюцыі, а на доўгае і ўпорлівае змаганьне з дня на дзень...

### Ад аднае да другое Рэвалюцыі.

Ад пачатку 1907 да 1917 году Беларуская Сацыялістычная Грамада блізу не вядзе шырокае арганізацыйнае працы ў масах на партыйным груньце. Але партыйны цэнтр, — ня гледзячы на спробы „ахранкі" зьніштожыць яго,—перахаваўся і стаўся фактычна ідэйным цэнтрам усяго беларускага адраджэнскага руху, хаця не выяўляў сябе вонках. Гэты цэнтр кіруе ўсей культурнай працай беларускіх адраджэнцаў, трымае ў сваіх руках беларускую прэсу і выдавецтва, выдае газэты ў чужых мовах (у Вільні адну штодзенную расейскую і адну штодзенную польскую). Уплывы цэнтру разыходзяцца ў масы беларускага сялянства, пранікаюць да ўнівэрсытэцкае моладзі і інтэлігенцыі — праз гэтую прэсу і культурныя ды іншыя грамадзкія ўстановы. Гэты цэнтр арганізуе выбарную барацьбу пры выбарах у расейскую Дзяржаўную Думу, рэпрэзэнтуе беларускі рух на міжынародавых зьездах і г. д.

Так—у рэвалюцыйным інтэмэццо — арганізацыя падгатаўляла грунт дзеля сваей працы ў будучыне, у якой і адыграла вельмі паважную ролю.

У канцы 1915 году, калі ў Вільню прыйшлі немцы, астаткі арганізацыі выступілі на арэну барацьбы не пад старым сьцягам, а як „Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Група". Ядро арганізацыі тут складалася з старых працаўнікоў-інтэлігентаў і работнікаў: двух Луцкевічаў, „Цёткі" і „трох Язэпаў" — работніцкіх дзеячоў, іменна: Язэпа Ліцкевіча, Язэпа Туркевіча і апаганіўшага ў апошнія часы сваё некалі паважанае імя „службай" у арганізацыі Павлюкевіча—Язэпа Салаўя. Дзеяльнасьць гэтае групы, як самастойнае арганізацыі, выяўлялася ў вельмі абмяжованых рамках, але яна аказвала свой пераважны, калі ня выключны, уплыў на ўсю беларускую працу пад нямецкай акупацыяй. Беспасрэдна група выступала толькі ў радзе міжынародавых выступленьняў агульна-краёвага характару (мітынгі і пратэсты проці акупанцкае палітыкі, проці „Тарыбы" і інш.), выпускала першамайскія праклямацыі і іншыя адозвы і г. д.

Пад старой фірмай сваей Беларуская Сацыялістычная Грамада пачынае нанова выяўляць сваю дзеяльнасьць ад канца 1916 году, але ўжо на Усходзе, пад уладай Расеі,—уладай, якую яна ламала разам з другімі рэвалюцыйнымі партыямі рознапляменнае Расейскае дзяржавы.

Але аб гэтым няхай кажуць тыя, хто ў гэным пэрыадзе быў актыўным учасьнікам працы і выступленьняў партыі.

Г. Б.

Вільня, 27. XI. 1925.

## Б.С.Г. падчас Рэвалюцыі 1917 году.

Калі ў пачатку 1917 году ў Расеі пачала насьпяваць рэвалюцыя, сярод выэміграваўшых на Усход сяброў Б.С.Г. пачынаецца таксама ажыўленьне. Творацца новыя арганізацыі Грамады ў Менску і Пецярбурзе. Выяўляюць сваё аблічча і прызваныя ў рады арміі „грамадаўцы". I, калі выбухае ўрэшце рэвалюцыя (лютовая), беларускія сацыялістычныя элемэнты прымаюць у ёй чыннае ўчасьце.

„Грамадаўцы" іграюць кіраўнічую ролю ў пэрыяд масавых зьездаў жаўнераў-беларусаў. Яны-ж бяруць на сябе і пачын скліканьня Першага Усебеларускага Зьезду, які паклаў падставы беларускага дзяржаўнага будаўніцтва ў межах агульна-расейскае фэдэрацыі.

Згуртаваньне расьцярушаных партыйных сілаў „грамадаўцаў" прыпадае яшчэ на чэрвень месяц 1917 году. Прынамся 4—6 чэрвеня ў Пецярбурзе была склікана партыйная канфэрэнцыя, на якой быў выбраны Часовы Цэнтр. Камітэт партыі, які і вёў усю партыйную працу да кастрычніка таго-ж году, калі сабраўся агульна-партыйны зьезд у Менску. Замест апавядаць аб гэтым зьезьдзе, падаем тут выметкі з апублікаванага пратаколу зьезду за подпісам старшыні яго Яз. Дылы і сэкрэтара А. Смоліча.

## Пратакол

### III Зьезду Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

„Зьезд адкрыўся 14-га кастрычніка 1917 года ў Менску ў „Беларускай хатцы" (Захараўскі зав. 6). На зьездзе былі прадстаўнікі ад гэткіх арганізацый Грамады: Масква—Яз. Дыло, Петраград — Варонка Яз., Зм. Жылуновіч, Б. Тарашкевіч, Слуцк — Р. Астроўскі, Менск—А. Прушыньскі (Алесь Гарун), Смоліч, П. Бадунова, Л. Сівіцкая, Гельсінгфорс—Муха, XII армія — Мамонька, Дадон, Барысаў—Шыцёнак, N дывізія—Мікалайчук, Бабруйск — Шантыр, Талчынская і Крычко, Бакшты — Бычкоўскі і Чэрнік, Нарвская арганіз. (Петраград)—Чэрвякоў, X армія — Рак-Міхайлоўскі, Менская дружына—В. Адамовіч, N этапн. батальён—Платон і інш.

Апроч таго, з дарадчым голасам былі сябры: Бондарчык, Шыла, Дварчанін, Ласко, В. Левіцкая, Даніле-віч і Галавач.

Зьезд пачаўся ў 6 гадз. вечара прамоваю прадстаўніка арганізацыйнага камітэту па скліканьню зьезда. Пасьля былі выбары прэзыдыуму. За старшыню выбралі Язэпа Дылу—аднагалосна, яго намесьнікамі—Мамоньку і Жылуновіча, пісарамі—Талчынскую і Смоліча.

Працу сваю зьезд пачаў з разгляду партыйнага статуту. Зроблены былі некаторыя зьмены, галоўным чынам рэдакцыйнага характару ў праэкце паправак і дадатку да статуту, распрацаваным Маскоўскім Камітэтам. На першым сходзе прынята палавіна статуту, §§ 1—11.

На другі дзень зьезд, часова спыніўшы разгляд статуту, пачаў разглядаць праэкт паправак да партыйнае праграмы. Прыняўшы за аснову праэкт паправак, распрацаванай Петраградзкай канфэрэнцыяй Б. С. Г. 4—6 чэрвеня 1917 г., зьезд зрабіў зьмены ў прадмове і ў §§ 1, 2, 3, 4, 6, 7, 8 і 12.

На трэці дзень — 16-га кастрычніка разглядалі агульную праграму. Пасьля доўгіх дэбатаў прыняты былі аснаўныя прынцыпы рашэньня зямельнай справы:

1) Уся зямля—усяму народу.

2) Зямельнаю справаю кіруе Краёвая Рада.

3) Надзяленьне ня вышэй працоўнай і ня ніжэй харчоўнай нормы.

Далейшае распрацаваньне даручана рэдакцыйнай камісіі з т. т. Варонкі, Смоліча, Тарашкевіча, Шантыра і Дылы.

З прычыны вайсковага беларускага зьезду Заходняга фронту праца III партыйнага зьезду спынілася на тыдзень. У гэтым часе працавалі толькі рэдакцыйная камісія і прэзыдыум зьезду, якія і падгатавалі ўвесь патрэбны матар'ял да пленуму.

Апошні сход III партыйнага зьезду адбыўся 25-га кастрычніка і цягнуўся цэлы дзень. Па дакладу рэдакцыйнае камісіі былі прыняты папраўкі ў §§ 12, 13, 20, 22, 23 і 27 агульнай часткі партыйнай праграмы, нанова рэдагаваны §§ 14, 27 гэтай часткі і § 2 з нацыянальнае праграмы; пасьля прынята ўся зьмененая праграма ўцэласьці—аднагалосна.

Разглядзеўшы справу партыйнага дэвізу, пастаноўлена зьмяніць яго гэтак: „Працоўная бедната ўсіх народаў „злучайся"!

Пасьля таго былі разгледжаны апошнія §§ статуту партыі і ўрэшце ён увесь прыняты аднагалосна.

Разгледзіўшы справу аднашэньня Б.С.Г. да нацыяналізацыі войска, прынялі гэткую пастанову: III партыйны зьезд Б.С.Г. вітае ўтварэньне беларускай народнай арміі і жадае, каб яна сталася рэвалюцыйнаю гвардыяй працоўнага народу беларускага, і памагла яму дабіцца яго нацыянальных і сацыяльных мэтаў.

Заслухаўшы адчот прадстаўніка часовага Цэнтр. Камітэту Грамады Яз. Варонкі аб чыннасьці Ц. К., зьезд пастанавіў: лічыць выбары праз Петраградзкую канфэрэнцыю Б.С.Г. 4—6 чэрвеня 1917 году „Часовага Цэнтральнага Камітэту Б.С.Г." зробленымі дзеля вымогаў партыйнай працы і палітычнага моманту, а чыннасьць яго зацьвярдзіў.

Усе пытаньні сучаснага моманту зьезд пастанавіў перадаць на кампэтэнцыю выбранага зьездам Ц. К. Таксама на кампэтэнцыю Ц. К. здана апошняя рэдакцыя партыйных праграм і статутаў.

У канцы выбраны Цэнтр. К-т Бел. Сац. Гр. у ліку 12 чал. сяброў: Прушынскі Алесь (Ал. Гарун), В. Адамовіч, П. Бадунова, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Смоліч, І. Мамонька, Муха, Яз. Дыла, Зм. Жылуновіч, Яз. Варонка, Б. Тарашкевіч і Мік. Шыла, а кандыдатамі да іх: Яух. Ласко, Лузгін, Бандарчык, Пятроўскі, Петрашкевіч і Турук.

У 8 гадз. веч. 25 га кастрычніка III партыйны зьезд Б.С.Г. закрыўся, споўніўшы сваю працу".

## Ліквідацыя Б.С.Г.

Калі—у выніку Усебеларускага Зьезду—утварылася Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, прадстаўнікі Б.С.Г. прадстаўлялі ў ёй найвялікшую групу, якая фактычна і кіравала ўсей працай Рады, прымаючы на сябе і ўсю адказнасьць за кірунак гэтае працы.

Трэба, аднак, адзначыць, што ў той час у складзе Б.С.Г. маем ізноў прадстаўнікоў дзьвюх ідэалёгіяў: з аднаго боку—марксаўскай, з другога—эсэраўскай. Вынікла гэта з таго, што ў мамэнт выбуху рэвалюцыі Б.С.Г. была адзінай беларускай рэвалюцыйнай арганізацыяй, і да яе йшлі ўсе беларусы, сьвядомыя нацыянальна, паскольку хацелі актыўна працаваць на карысьць рэвалюцыйнага руху. Вось-жа ў Радзе Рэспублікі, калі прыйшлося практычна вырашыць падставовыя пытаньні будаваньня новага жыцьця Беларусі, у радох партыі пачалася нязгодлівасьць, якая хутка давяла яе да развалу. З яе выступіла выразна эсэраўская група, якая і стварыла **Партыю Беларускіх Эсэраў**, а так-жа больш умеркаваная маленечкая групка людзей, аб'яднаных ня гэтулькі праграмова (бо праграмы сваей яна так і не апублікавала!), скольки асабіста—пад кіраўніцтвам свайго правадыра Язэпа Варонкі; гэтая групка стварыла **Партыю Сацыялістаў Фэдэралістаў**, якая, аднак, ніякае ролі ў беларускім **масавым** руху не адыграла.

Яшчэ раней, бо ў канцы 1917 году, з партыі выдзяліліся бальшавіцкія элемэнты, якія і заснавалі **Беларускую Камуністычную Партыю** з Жылуновічам, Чарвяковым і інш.

Пасьля расколу, які стаўся ў пачатку 1918 году (ўжо пасьля акту 25-га марца аб незалежнасьці Беларусі), у складзе Б.С.Г. асталіся выключна марксісты, якія хутка і выявілі сваё аблічча, пераменіўшы назоў партыі на: **Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Партыя**.

Гэтак Беларуская Сацыялістычная Грамада пратрывала трынаццаць гадоў і сваей працай палажыла нязвычайна вялікі сьлед у разьвіцьці беларускага вызвольнага руху. З яе радоў выйшаў рад новых беларускіх партыйных групіровак, якія (апрача зьліквідаваных нядаўна эсэраў і даўно памершых эсэфаў) іграюць і сяньня кіраўнічую ролю ў беларускім жыцьці. Толькі-ж пад той час, як Беларуская Камуністычная Партыя зьяўляецца ў Радавай Беларусі дзяржаўнай і кіруючай усім палітычным жыцьцём краю, беларускія эсдэкі гуртуюць пераважна элемэнты культурніцкія і палітычнае ролі тамака ня іграюць.

У Заходняй Беларусі ролі абедзьвюх груп падзяліліся зусім аналягічна да таго, як і ў Усходняй.

## Аб дыктатуры п. Пілсудскага.

Аб гэтай, здаецца, навісшай над Польшчай „дыктатуры марш. Пілсудскага“, прапагаванай нават „Вызваленьнем“ і „Партыяй Працы“, гэтак кажа орган „Незалежнай Сялянскай Партыі“—„Walka Pracy“:

„Дык вось мае дайсьці да ўлады маршалак Пілсудскі.

Добра, ну, а што-ж далей?

Ці-ж Пілсудскі, які ніколі ані водным словам ня стануў за тое, каб ня крыўдзілі ў Польшчы сялянства, зьменшыць падаткі?

Ці Пілсудскі, які сам — заўзяты мілітарыст (ваяка), які ўмеў толькі павялічываць армію і штораз большых грошы трэбаваць на войска ў казармах,—ці ён зьменшыць нашы агромныя выдаткі на збраеньне?

Ці Пілсудскі правядзе цяпер зямельную рэформу, якая патрэбна народу, калі ён неяк забыўся аб гэтым тады, калі быў неабмежаваным дыктатарам Польшчы, і абшарнікі дрыжалі перад ім ад страху? (як пасьля аказалася — зусім непатрэбна!)..

Ці Пілсудскі пойдзе мірным шляхам, захоча заключыць гаспадарчыя і палітычныя трактаты з суседзямі, калі ён — адзін з найвыдатнейшых у Польшчы прадстаўнікоў палітыкі вайны, калі ён—зачыншчык нешчасьлівых паходаў на Кіеў і Менск,—зачыншчык вечна неспакойнай палітыкі польскага імпэрыялізму?

Пілсудскі—добры кіраўнік вайны, але народ у Польшчы мае ўжо даволі вайны“...

Дык даволі яму ўжо і Пілсудскага!



## Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Меры міністра Зьдзеховскага.

Апрача заяваў і адозваў, п. міністар фінансаў прыняў нарэшце і рад рэальных мераў, каб перад усім забараніць .. аддзелам Польскага Банку ў краі рабіць спадак польскай валюты!—Бо-ж дагэтуль сам Польскі Банк выдаваў „залічкі“ ў злотых пад застаў даляраў, дык дзіва, што ніхто даляраў не прадаваў, але закладываў іх у Банку, атрымліваючы злотыя, якія выдаваў; а „залічку“ вяртаў у Банк, калі злоты значна спадаў... І так далей.

У саймавай фінансавай камісіі мін. Зьдзеховскі зрабіў вельмі важныя заявы, якія, здаецца, павінны былі-б спыніць адразу паніку, калі-б... не агульна пануючая нявера ў краі. Ён заявіў, што ўрад не дапусьціць інфляцыі... Ён абяцаў панізіць усімі мерамі курс даляра—„да нормы, адказываючай рэальным гаспадарчым варункам краю“... (Трэба сказаць тут тое, што пісала ўся польская і загранічная прэса, — што пачаткавы парытэтны курс злотага (5.18) якраз—не адказываў гэтым варункам...). Ён пабажыўся, што Скарб ані на адзін злоты не павялічыў колькасьці білёну (непакрытай фондамі Скарбу разьменнай манэты—„білеты здавковэ“ і мэталічная манэта). Ён заявіў, што бюджэт будзе абрэзаны на 500 мільёнаў злотых (фактычна трэба будзе рэзаць значна больш, бо—спадак злотага і ўзрост дарагоўлі выкліча патрэбу павялічэньня бюджэтных асыгнаваньняў, робячы менш рэальным бюджэт...). Ён неяк,—але вельмі няясна!—абяцаў рэпрэсіі і кары — за падвыжку цэн на тавары.

Тут першым чынам трэба зьвярнуць увагу п. міністра, каб ён перад усім забараніў гэтую спэкуляцыйную падвыжку—сваім арэндарам сернічкавай манаполіі.—Бо сернікі, ня гледзячы на рашучую заяву яшчэ п. Грабскага, што іх цана ня будзе вышэй 5 грошаў, ужо прадаюцца па 8...

Калі гэта пану міністру ўдасцца зрабіць з магутным замежным капіталам, тады і край паверыць у яго сілу наагул...

Тады край паверыць і яго заяве—аб „надзеі на перамогу... ў бліжэйшым будучым“...

### Адозвы банкаў.

Урад Польскага Банку, а таксама група прыватных банкаў выпусьцілі адозвы, у якіх даводзяць, што для спадку польскай валюты няма ніякіх падставаў, і—заклікаюць насяленьне не паддавацца паніцы, якая можа выклікаць толькі агульную дэзарганізацыю...

### Міністар фінансаў едзе ў Лёндан.

Мін. фінансаў п. Зьдзеховскі мае ў найбліжэйшыя дні выехаць у Лёндан, дзе разам з Скшыньскім будзе, відаць, прасіць грошаў — на ратаваньне польскай валюты.

Вось цяпер і пабачым, ці запраўды гэтае разрэклямаванае п. Скшыньскім „Лёкарно“ дасьць што рэальнае Польшчы...

### „Легіёнізацыя“ вярхоў польскай арміі.

Правыя газэты з абурэньнем зьмяшчаюць весткі аб тым, што першым крокам новага ваеннага міністра ген. Жэліговскага было назначэньне на вышэйшыя становішчы ў генаральным Штабе 2 легіёністаў (пілсудчыкаў).

## Заграніцай.

### Нямецкі парлямант прыняў Лёкарнскія Трактаты.

Рэйхстаг прыняў у трэцім чытаньні (аканчальна) абодва ўрадавыя законапраекты: першы—аб ратыфікацыі Лёкарнскіх умоваў — 300 галасамі, проці 174, і другі—аб уваходзе Нямеччыны ў склад Лігі Народаў 278 галасамі проці 183, пры 6 устрымаўшыхся.

Пры галасаваньні над усім законапраектам, які ўрад лічыць зьвязаным у адно цэлае, 291 голас быў пададзены за, 174 проці, пры 3 устрымаўшыхся.

### Лёкарнскія Трактаты падпісаны.

1-га сьнежня ў Лёндане ўрачыста падпісаны трактаты, апрацаваныя ў Лёкарно.

Уся прэса падчырківае тыя авацыі, якія зроблены ў Лёндане прыехаўшым прадстаўніком Нямеччыны, і—толькі ім адным.

### Доказ англійскай прыязьні да Нямеччыны.

Лёнданскія газэты паведамляюць, што англійскія акупацыйныя ўлады у Кельнскім абшары распачалі эвакуацыю нават на дзень раней, чым гэта было ўмоўлена ў паразуменьні між урадамі ў Лёкарно.

### Канфлікты нацыянальных касьцёлаў з Ватыканам.

Можна лічыць азнакай часу — барацьбу новапаўстаўшых незалежных нацыянальных дзяржаў з Ватыканам (так-званым „Чорным Інтэрнацыяналам“). Не пасьпеў яшчэ завяршыцца востры і яўна пагражаючым разрывам канфлікт Чэха-Славакіі з Папай, як узгарэўся пажар новага канфлікту—між Ватыканам і Літвой...

Мы ня будзем падрабязна займацца прычынамі і ходам гэтых канфліктаў. Сцьвярджаем толькі, што ўсе яны пагражаюць няўхільным расколам у каталіцкай царкве і паўстаўаньнем „нацыянальных касьцёлаў“.

Сцьвярджаем і магутную сілу нацыянальнай ідэі, якая зьяўляецца запраўднай—азнакай часу.

### Расейскі банк у Коўне.

Камісар фінансаў СССР на канфэрэнцыі літоўскай і радавай дэлегацыяў у справе ўзаемнага гаспадарчага збліжэньня гэтых краеў заявіў, што радавы ўрад мае ў хуткім часе адчыніць у Коўне спэцыяльна Расейска-Літоўскі Банк, дзеля фінансаваньня гандлю між абодвума краямі.

### Чычэрын мае спаткацца з Чэмбэрленам.

Парыжская і лёнданская прэса падае вестку, быццам Чычэрын, які толькі-што гасьціў у Парыжу, выразіў жаданьне спаткацца з Чэмбэрленам, і што гэты апошні—таксама зажадаў размовіцца з прадстаўніком Радаў.

### Англійскі парлямант аб камуністах.

Англійская Ніжняя Палата (Сойм) адкінула 351 галасамі проці 127 прапазіцыю Мак-Дональда —аб паганьбеньні распачатых урадам рэпрэсіяў проці англійскіх камуністаў.

### Дэманстрацыя безработных у Лёндане.

У Лёндане вялікая таўпа безработных зрабіла дэманстрацыю перад вастрогам, дзе сядзяць 12 камуністаў, дамагаючыся іх звальненьня.

### Ізноў інфляцыя у Францыі.

Францускія газэты пішуць, што зараз-жа пасьля атрыманьня новым габінэтам даверыя ў парляманьце новы міністар фінансаў п. Люшэр, якога цяпер так выхваляюць за яго энэргію і памысловасьць (як яшчэ нядаўна выхвалялі скінутага вельмі хутка Кайо), распачне рашучую акцыю дзеля ратаваньня францускага франка.

Можа найвялікшая перавага п. Люшэра — у яго шчырасьці, бо ў справах грашовых—найважнейшае рэч—ня лгаць,—чаго яшчэ не разумеюць дзе інш... Люшэр проста заявіў, што бяз новай інфляцыі не абойдзецца... Дык першым чынам ён і мае выпусьціць на 8 мільярдаў яшчэ франкаў, а пасьля будзе шукаць спосабаў, каб пакрыць гэту суму надзвычайнымі падаткамі...

Розьніца між Францыяй і Польшчай — тая, што там яшчэ шмат можна ўзяць з краю, а ў нас буржуазныя ўрады даўно „ачысьцілі“ ўвесь край, скарміўшы сваім паном усе запасы народнай працы.

### Готэнтоты „Вэрсальскай Эуропы“.

З шляхотным абурэньнем „Dzien. Wil.“, усьлед за „адзінай польскай газэтай у Літве“, „Dzien. Polski“, даносіць:

„У польскіх пачаткавых школах Коўны і на правінцыі ўведзена літоўская мова, як выкладовая... Захватная меншасьцёвая палітыка літоўскага ўраду пагражае дэнацыяналізацыяй нашых дзяцей“...

Пэўна-ж, на гэты гвалт над апынуўшыміся ў руках літоўскіх готэнтотаў душамі польскіх дзяцей не маўчалі польскія паслы Сойму! Яны падалі ў Сойме да міністра асьветы, — так сказаць, да літоўскага „Грабскага“,—рэзкую інтэрпэляцыю, якая слушна і забойча для дзяржаўнага гонару Літвы пазываецца на ведамую дэкляраныю яе прадстаўніка ў Лізе Народаў, урачыста абяцаўшую „забясьпечыць правы нацыянальных меншасьцяў у Літве“... Ліга паверыла тады літоўскаму „Скшыньскаму“, і — вось што робіць цяпер літоўскі ўрад.

Запраўды, што можа быць агідней — з усіх пунктаў гледжаньня,—чым гэткае паступаньне?!

Да ўсяго гэтага можна толькі дадаць, што розьніца між „літоўскім Дмовскім“ і „польскім Гальванаўскасам“—толькі ў тым, што апошні зрабіў Лізе Народаў аднабокую „дэкляраныю“, гарантуючую ахову правоў меншасьцяў, а першы — ад імя Польшчы, разам з Падэрэўскім—падпісалі запраўдны Трактат з вялікімі дзяржавамі, якія ахову меншасьцяў паставілі за **варунак стварэньня „Вялікай Польшчы“**... А калі палічыць яшчэ Рыжскі Трактат і Канстытуцыю, дык выйдзе, што Польшча тройчы дала прысягу перад усім сьветам гарантаваць сьвятыя правы дзяцей тых нацыянальнасьцяў, якія адданы ў яе рукі „вэрсальскім лёсам“...

Па-за тым, як гэта прызнае і сам п. Обст, між абыдвума „Грабскімі“—літоўскім і польскім—няма-ж ніякае розьніцы!

### Мусоліні—„дынтатарам да Сьмерці“.

Фашыстаўскі „парлямант“ мае абвясьціць Мусоліні—„дыктатарам аж да сьмерці“...

### Урадавы крызіс у Чэха-Славакіі.

Назначаны Прэзыдэнтам за прэм'ера Швэглі адмовіўся ад стварэньня ўраду, заявіўшы, што ня можа пагадзіць між сабой — „каталікоў“ і сацыялістаў (абедзьве партыі былі ў складзе папярэдняй урадавай большасьці). Ён-жа запрапанаваў Прэзыдэнту назначыць прэм'ерам правадыра „каталікоў“—Шрамака. Але зусім няма пэўнасьці, ці і таму ўдасцца яго місія.

### Канфэрэнцыя правадыроў паўстаньня ў Марокко.

У Марокко пад старшынствам Абд'Эль-Крыма адбываецца канфэрэнцыя правадыроў, паўстаўшых галоўных пляменьняў. Канфэрэнцыя мае прыняць вельмі важныя пастановы,—ясна-ж—у справе вайны ці міру з Францыяй...

### Завастрэньне хатняй вайны ў Кітаі.

Генарал Фэнг паслаў ультыматум Чан-Тсо-Ліну, трэбуючы, каб той зусім адыйшоў ад палітычнай дзеяльнасьці. Калі трэбаваньне ня будзе выканана, тады пачнецца запраўдны паход на Мукдэн. Чан-Тсо-Лін, апіраючыся на японцаў, адказаў рэзкай адмовай. Дык трэба спадзявацца завастрэньня барацьбы.

Пад уплывам новай рэальнай сілы, падыходзячай да Пэкіну, у цэнтральным урадзе адбыліся перамены: усе прыхільнікі Чан-Тсо-Ліна заменены староньнікамі Фэнга.

Радавае пасольства першае заявіла ген. Фэнгу, што ўрад СССР прызнаў яго ўладу, як адзіную законную ў Кітаі.

У Пэкін прыбылі правадыры партыі „Гоміндэн“ з сынам нябожчыка Сун-Ят-Сэна на чале—дзеля паразуменьня з радавым пасольствам у справе аб'яднаньня паўдзённага Кітаю з паўночным.

### Японская мабілізацыя ў Манчжурыі.

Японскае консульства ў Манчжурыі аб'явіла мабілізацыю ўсіх японцаў, што жывуць у межах гэтага краю. Ня гледзячы на нядаўнюю заяву японскіх уладаў аб тым, што ў Манчжурыі хопіць войска „для аховы японскіх інтарэсаў“, у Манчжурыю пачалі прыбываць транспарты новых войск з Японіі.

### Рэвалюцыйны настрой у Пэкіне.

На вуліцах сталіцы Кітаю—масы народу, захопленыя рэвалюцыйным настроем. Спадзяюцца гэтымі днямі абвяшчэньня Кітаю Радавай Рэспублікай. Гэтымі днямі мае прыехаць у Пэкін з Масквы Карахан, які быццам мае прыняць гарачае ўчасьце ў рэвалюцыйным руху ў Кітаі.

### Шанхай захоплены кітайскімі матросамі.

У Шанхай прыбыла з Цянь-Дзіня кітайская кананерка, якая, высадзіўшы матросаў, захапіла пасьля бою партовыя будоўлі. У месьце Шанхаі—паніка.

## ХРОНІКА.

**П. Снарскі ў Віленшчыне.** Некаторыя газэты падалі вестку аб тым, што ў Вільню ізноў прыехаў п. інспэктар Снарскі—быццам у зьвязку з „маніфэстацыямі“ сымпатызуючых марш. Пілсудскаму мясцовых вайсковых уладаў... Дык сам Прэзыдыум самай Рады Міністраў прастуе гэтую вестку, заяўляючы, што п. Снарскі прыяжджаў з даручанай яму спэцыяльна справай — ліквідаваць „камуністычны рух“ у Заходняй Беларусі...

**Ад грамадзкае працы ў манастыр.** Паводле польскіх газэт, вядомы беларускі нацыянальны дзеяч, кс. Цікота (ў Дзісеншчыне) паступіў у манастыр.

Ці не загналі яго туды зьдзекі, якіх дазнаў за сваю працу на беларускай ніве ягоны калега па фаху кс. Гадлеўскі?

**Самагубства вязьня.** У павятовым арышце ў Глыбокім, як падаюць польскія газэты, западазроны ў забойстве Н. Бжостовскага ў 1917 годзе Кастусь Наўмёнак з вёскі Крывічы, Пліскае гміны, з мэтай самагубства параніў сябе нажом каля жалудка.

**Добры кіраўнік „Сойміку“!** Кіраўнік сьвянцянскага „Сойміку“, назначаны панам старостай, нейкі Ярнушкевіч, аказаўся кокаіністам і... зладзеем!.. Ад нейкага часу было заўважана, што ў канцэлярыі „Сойміку“ з зачыненае шуфляды пачалі прападаць грошы—невялічкімі сумамі, па некалькі злотых. Тады працаваўшыя ў канцэлярыі ўрадоўцы зрабілі „засаду“ і прылавілі свайго „калегу“, як выймаў спэцыяльна пакінутыя пяць злотых...

Ярнушкевіча ўжо даўно маніліся звольніць са службы, як зусім нягоднага да працы, але, відаць, ён меў „моцных заступнікаў“, дык і прадзяржаўся датуль, пакуль не папаўся „пры працы“!..

Відаць, чарод выкрываньня зладзействаў перайшоў да нашых „самаўрадаў“...

**Кража тэлефонных дротаў.** „Słowo“ наказуе, што паміж вёскай Шчэрбы і фальв. Мечыславова, Пліскае гміны, нет ведама кім зьняты 140 мэтраў тэлефонных дротаў на лініі Пліса—Лужкі—Гэрманавічы, што на нейкі час прыпыніла тэлефонныя зносіны між пералічанымі пунктамі.

## Пісьмо у рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

У № 1 „Беларуская Ніва“ з дня 18-га лістапада гэтага года была надрукавана карэспандэнцыя з Гарадні, дзе между іншым нейкі „поп-Беларус“ піша: 1) што дзіцячы прытулак не падабаецца п. Паўлюкевічу і 2) мяне палічыў за „паўлюкевічаўца“.

Як кіраўнік прытулку і сябра К-ту Белар. Т-ва, магу сказаць, што прытулак зусім не інтэрэсуе, ці ён падабаецца Паўлюкевічу і інш. ці не, бо ад гэтага прытулку няма жаднай карысьці.

Пазатым катэгарычна заведамляю, што на паўлюкевічаўскім зьездзе ня быў і да гэтай групы, як раўна і да іншых, не належу.

З паважаньнем **Аршун.**

## Карэспандэнцыі.

### Вестка з вёскі.

(Гарадзенскі павет).

8-га лістапада сёл. года паўнамоцнік вёскі Алекшыцы і Жукавічы Вялікія атрымаў адказ на пісьмо ад школьн. інспэктара, які піша, што 13./VI. с. г. пераслаў дэклярацыі аб беларускіх школах да Куратара.

Гэта нас ня цешыць з таго, як інспэктар рабіў „спраўджаньне“, можна заключыць, што дэклярацыі назад ня вернуцца.

У адзін вясьняны дзень паліцыя на вэлясыпэдах разьвязла павесткі ўдовам і некаторым дэклярантам, каб зьявіліся ў школу ў Алекшыцах. Кожны думаў: ізноў штраф!—і скрабаў патыліцу.

У школе п. Інспэктар Шульц вызываў па адным і ў прысутнасьці членаў камісіі і 2-х паліцыянтаў пытаўся: сям'ю, колькі гадоў, нацыянальнасьць, і калі хто гаварыў: рускі—падхватываў і пісаў „рускі“. І казаў падпісваць паперку, а пра дэклярацыі ні слова.

Калі гр. Ш. запытаўся, што мае падпісваць, то п. Інспэктар сказаў: „będziemy odprawiać do Rosji“. Другому гр. К. на такое пытаньне „obszarnik Wołkowyski“ сябра кам. сказаў: „dawali owies, a teraz będzie łubin“. Пасьля такіх разумных адказаў „wysokiego urzędnika i p. obszarnika“ людзі мусілі падпісваць, самы ня ведаючы што.

Толькі некаторым паказвалі дэклярацыі і, калі чалавек не паддаваўся, дык п. Інспэктар пытаўся: ці хочаце, каб толькі адна польская мова выкладалася папольску? На гэта кожны згаджаўся.

На запытаньне гр. Д. дэкляранта і сябра камісіі, чаму ня ўсе дэкляранты вызваны, — п. Інсп. выясьніў, што ня мае часу ўсіх спраўджаць,—бярэ толькі палову, і які % выскажацца за беларускую школу, так будзе і з другой паловаю.

Гэта было запраўды не „sprawdzenie“ але скрыўдзэне нашага народу, але правакацыя. І выходзіць пасьля такога „sprawdzenia“, што: naród nie chce szoły białoruskiej, a polskiej, albo pol.-białoruskiej“. Так замест прошанай беларускай школы ў вёсках Кубельніках, Навасёлках і Песках, Есьманьскай гміны, прыслалі польскага вучыцеля, якому Навасёлкі адмовіліся даць памешканьне—як для школы, так і для самога, і толькі кучка абаламучаных каталікоў у Пясках—дала яму прытулак.

Дык вось, як бачым, відаць, не дастаць нам дзяржаўнай беларускай школы, дык, каб не загінуць нацыянальна, мусім будаваць сваю прыватнутю школу. І ніякія перашкоды не павінны нас затрымліваць у імкненьні да будаваньня свае беларускае школы!..

**Пакрыўджаны беларус.**

### Няшчасны выпадак ці помста.

(*Радашкоўская воласьць, Вялейскага павету*).

Страшэннае здарэньне было ў нашай ваколіцы; так яно далося вяскоўцам у знакі, што, мусіць ні адна дзяўчына цяпер ды ні адзін дзяцюк ужо больш ня пойдуць на вечарыну да жаўнераў, у іхнюю казарму. Справа была гэтак. У працягу усяго лета жаўнеры з найбліжэйшай вартоўні сваей, што стаіць на зямлі двара Малыя-Бакшты, перашкаджалі ў в. Максімаўцы нашым хлапцам ладзіць вечарыны ў нашай вёсцы, бо зьяўляліся пьяныя, задзіраліся. А адзін раз дык нават пабілі аднаго дзяцюка нашага Акуліча ды паламалі музыку гармонік. Неяк пад восень ранейшых жаўнераў заступілі новыя. Гэтыя пачалі часта ладзіць вечарыны ў сябе ў прасторнай і вялікай вартоўні, надта выгоднай да танцаў, і запрашаць да сябе вясковую моладзь. На нядзельку 15 лістапада запрасілі да сябе жаўнеры моладзь з акалічных вёсак, нанялі музыку, і сабралася туды, праўда, шмат вясковых хлапцаў і дзяўчат, ды прыехалі чатыры асаднікі, якія ўжо ад двух гадоў жывуць у нашай воласьці. Сьпярша было нібы палюдцку, але прыбыўшыя трохі пазьней—ў таварыстве аконама Малыя-Бакшты Дзяржынскага — чатыры асаднікі, ужо перад гэтым добра падвыпіўшыя, унесьлі беспакойства ў ходзе вечарыны, бо ў пэўным часе зажадалі, што як яны будуць скакаць у чатыры пары, каб другія не мяшаліся і ім не перашкаджалі. Не зважаючы на гэта і прыняўшы гэта, урэшце, за жарт ды за капрыз падвыпіўшых людзей, жаўнеры пусьціліся ў пляс ды і вясковыя ад іх не адсталі. Танцуючых ды і глядзеньнікаў было на салі шмат. Усё было нібы ўпарадку. Раптам сярод танцуючых узарвалася бомба. Пачуліся крыкі, енк раненых. Гэта было а гадзіне 8 вечара. Усе прысутныя на вечарыне былі адразу-ж затрыманы і ў-ва ўсіх іх быў зроблены вобыск.

Раненым была зроблена перавязка на мейсцы, а на другі дзень іх адвезьлі на вясковых хурманках на станцыю, а стуль цывільных ў бальніцу ў Вялейку, а вайсковых у Вільню.

Пасьля вобыску ўсе прысутныя на вечарыне вяскоўцы былі адпушчаны да дому; трох-жа асаднікаў камісія сьледчая затрымала,—двое з іх былі звольнены праз дзень, а трэці праз тры дні. Кажуць людзі, што камісія рабіла вобыск і ў кватэрах асаднікаў, прычым у двух з іх былі знойдзены бомбы. Вядзецца сьледзтва і, магчыма, суд скора выкрые вінавайцу, бо бомба ня была кінута ні праз вакно, ні праз дзьверы, як гэта было сьцьверджана прысутнымі, а некім з тых, хто быў у будынку.

Скуткі выбуху бомбы былі страшэнныя: адзін жаўнер (жанаты, мае 2 дзяцей) забіты на мейсцы і 6 цяжэй ці лягчэй ранена. З хлапцоў і дзяўчат вёскі Максімаўка, быўшых на вечарыне, ранена 7 асоб.

Асабліва цяжка ранена Настася Ярук, дастала 5 ран—ў грудзі, у жывот і ногі; Руды Уладзімер—ранены ў абедзьве нагі, на аднэй адбіта пята; Баран Міхал—рана ў нагу з ушкоджаньнем косьці; Ключнік Мікалай—цяжкая рана ў нагу; Ходзька Антаніна, Ключнік Ганна і Ключнік Зінаіда ранены лягчэй. Усе гэтыя раненыя лечацца ў дзяржаўным шпіталі ў Вялейцы-павятовай, дзе штодзенная плата за лячэньне выносіць за кожнага 2 злотыя. Але бацькі раненых ня зьбіраюцца плаціць за лячэньне, разважаючы, што дзеці іхнія пайшлі на жаўнерскую гульню бяз іх дазволу, што ранены яны ў казённым доме, на казённай (бо з дазволу начальства вайсковага) вечарыне ды, што і бомба, можа, была казённая, бо адкуль-жа яна магла паходзіць і ад каго яна магла апынуцца на падлозе, калі не з кешані тых, хто мае права мець іх пры сабе. Нават больш — бацькі маюць намер даходзіць па суду адшкадаваньня за скалечаньне іхніх дзяцей.

Чым усё гэтае скончыцца, пакуль што невядома, але вяскоўцам нашым добрая навука—больш, мусіць, ня будуць хадзіць на вечарыны, дзе бываюць людзі з бомбамі.

**Язэп з-пад Радашкавіч.**

## Паштовая скрынка.

**С. Пабудзею.** Ад Вас да Н. Году належыць яшчэ 10 зл.—Кніжку вышлем.

**Падпішчыку № 1657.** Кніжка, аб якую Вы пытаеце, ёсьць: „Wzory podań do władz i sądów“, wyd. Hoesicka:—Warszawa, Senatorska ul. księgarnia Hoesicka. Цана яе 10 зл.

**А. Бухавецкаму.**—Газэту будзем пасылаць Вам і надалей. Чытайце сваім таварышам, няхай карыстаюць. Аб доўг ня бядуйце. Калі і сколькі зможаце, тады і адашлеце.

**Марыі Здановіч.**—Газэту і надалей будзем высылаць у ліку 5 экз. — Доўг Ваш выкасоўваем і надалей платы вымагаць ня будзем. — NN. газэты не атрыманыя Вамі, былі канфіскаваныя.

**Падпішчыку № 1511.** Ад Вас атрымана: 27/I.25 г. —6 зл.; 22/VI г.г.—3 зл. і 27/I г.г.—3 зл. Апошнія былі паквітаваны ў № 18 „Жыцьця Беларуса“.

**Падпішчыку № 1278.** Маеце аплочана па 1 марца 1926 г.

**Падпішчыку № 416.** Ад Вас 5 злотых атрымана 20/III—25 г.

**Падпішчыку № 1637.** — Газэту высылаем Вам бязупынна. 18/XI. разам з газэтай быў высланы Вам рахунак на 2 зл. на 1/XI. Цяпер атрымана ад Вас 3—50. Значыцца да Н. Году належыцца нам 2 зл. 50 гр.

**Падпішчыку № 1665.**—Ад Вас 8 зл. ў верасьні не атрымалі. Спраўцеся на сваей пошце.

**Падпішчыку № 2251.** — Ня ведаем, аб якую украінскую газэту пытаеце, напішэце ясьней.

### Падпішчыку № 2130.

**Запытаньне:** ці можна гаспадару, пражываючаму на 6-ці дзесяцінах зямлі, пазычыць да вясны 1926 г. 200 злотых у Беларускім Каапэратыўным Банку на гаспадарскую машыну — малатарню. Калі можна, то як і з якімі працэнтамі?

**Адказ:** Каб атрымаць пазычку у Беларускім Каапэратыўным Банку ў Вільні, трэба быць яго сябрам, а для гэтага трэба ўнесьці 25 злотых адразу, 5 злотых уступных і 25 злотых унесьці ў працягу году. Пры гэтым трэба падпісаць дэклярацыю аб жаданьні ўступіць у сябры.

Калі Вы згодны ўступіць у сябры і атрымаць пазычку 200 злотых, можаце зрабіць гэтак: прыслаць дэклярацыю і адначасна просьбу аб пазычцы 230 злотых. Тады банк 200 злотых выдасьць Вам на рукі, а 25 злотых залічыць на пай і 5 злотых на ўступныя.

Да заявы аб выдачы Вам пазычкі Вы павінны далучыць пасьведчаньне ад гміны, колькі Вы маеце ўласнай зямлі і іншую маемасьць.

Ваш падпіс на просьбе павінен быць сцьверджан гмінаю і так сама павінны падпісацца два паручыцелі, якія так сама маюць гаспадарку і іх подпісы так сама мусяць быць сцьверджаны гмінаю. За пазычку плоціцца 2 процанты.

Калі Вы згодны на гэтыя варункі, то спішыцеся з банкам, які вышле Вам блянкі. Адрэс: Wilno, Wileńska 8. Бел. Каап. Банк.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.